*Жыве Беларусь! Жыве вечна!*

# Голас Камбатанта

газэта ветэранаў беларускага вызвольнага руху

N 5,
лістапад-сьнежань 2000 г.
Адрас для карэспандэнцыі:
231800 Гродзенская вобл.,
г. Слонім-9, а/с 3.
Рэдактар Сяргей ЁРШ

## Свой сярод чужых, чужы сярод сваіх

Сёлета споўнілася б 80 гадоў Усеваладу Родзьку (1920 — 1946), правадыру беларускіх нацыяналістаў у канцы Другой сусьветнай вайны.

*Матэрыял чытайце на 3 балонцы*

## Памяць пра Герояў

*4 лістапада каля Парэцкай царквы на Слонімшчыне сябры спартова-патрыятычнай арганізацыі "Край" усталявалі крыж у памяць беларускага паўстанца Міхала Валовіча й ягоных паплечнікаў.*

*Матэрыял чытайце на 2 балонцы*



*Пошта*

## Згадалі тых, каго ўжо няма

*Кожная наша сустрэча - сьвята нашых душ! Нас мала хто ўспамінае... З сталінскім "таўро" мы і сёньня жывем, але памяць сэрцаў нашых не заглушыў такі адрэзак часу, не заглушылі і цяжкасьці жыцьця.*

Праз 46 гадоў пасьля нашага Кенгірскага паўстаньня мы сустрэліся 7 кастрычніка 2000 г. ў Пінску з адной сваёй сяброўкай, Вольгай Пуляк. Спачатку пазнавалі адна адну (так зьмяніў нас час), а пасьля ўсплывалі сьлёзы радасьці ад успамінаў, успамінаў...

Першы ўспамін з глыбокай годнасьцю, з малітвай на роднай мове за памерлых - каго прытуліла нашая Родная зямля, і ўсіх тых, каго прытуліла калымская мерзлата, тайшэцкія лесапавалы, паўночная тундра ды землі сталінскіх лягероў.

Радзеюць нашыя шэрагі з кожнай сустрэчай. Але пераемнасьць моладзьдзю нашай ідэі, нашых памкненьняў, цешыць нашыя стомленыя сэрцы!

Дасылаю верш, які прысьвяціла да нашай сяброўскай сустрэчы Надзея Дземідовіч, ды верш у гонар памяці Рыгора Клімовіча (яны зьмешчаны на 6 балонцы - *«ГК»*).

У іх выражана ўсё - трапныя вобразы жывога пачуцьця й глыбокія разважаньні ўсяго пражытага...

Усяго Вам добра! Многа сонечных дзён - бяз разьвітаньняў і страт!

*Вера Касмовіч*

# Памяць пра Герояў

працяг, пачатак на бал. 1

*4 лістапада 2000 г. побач з вёскай Парэчча, што ля Слоніма, рэйдавая група арганізацыі «КРАЙ» і Слонімскі аддзел «КРАЮ» усталявалі крыж у гонар удзельніка паўстаньня 1830-31 гг. Міхала Валовіча і яго паплечнікаў.*

Удзельнікі акцыі прайшлі шэсьцем з крыжом праз вёскі Васілевічы і Парэчча да зруйнаванай царквы. Ля царквы быў усталяваны крыж у гонар паўстанцаў. Уніяцкі сьвятар асьвяціў крыж і адслужыў малебен за Беларускі Народ. Перад прысутнымі выступіў гісторык Аляксандар Талерчык, прадстаўнікі арганізацыі «КРАЙ». Адзін з выступоўцаў падкрэсьліў пераемнасьць пакаленьняў у барацьбе за свабоду і незалежнасьць Беларусі. Напрыканцы імпрэзы арганізатары распаўсюдзілі сярод прысутных вяскоўцаў брашуру «Кожнае пакаленьне нашых продкаў выбірала свабоду», выдадзеную Слонімскім аддзелам арганізацыі «КРАЙ».

Гэтая акцыя была прысьвечана памяці нашых герояў, якія мужна змагаліся за вызваленьне Беларускага Народу з-пад прыгнёту Расейскай імпэрыі.

ГІСТАРЫЧНАЯ ДАВЕДКА Пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай у 1795 г. Беларусь была цалкам акупавана расейскімі войскамі. На працягу няпоўных ста гадоў беларусы тройчы ўздымалі меч барацьбы супраць нацыянальнага ворага — Масквы. Адным з самых магутных было паўстаньне 1830 — 1831 гг. Чынным яго ўдзельнікам быў наш зямляк Міхал Валовіч.

Ён нарадзіўся 18 чэрвеня 1806 г. ў маёнтку Парэчча Слонімскага павета. Лістападаўскае паўстаньне 1830 г. застала Міхала ў бацькоўскім доме. У той час, калі расейскія войскі былі выгнаны з Польшчы, выступленьне паўстанцаў у Беларусі ўжо распачыналася. Тут ужо існаваў Цэнтральны камітэт па кіраўніцтву паўстаньнем на Беларусі ў тагачаснай сталіцы — Вільні. Камітэт меў сувязь з варшаускімі паўстанцамі і з кожным паветам. Паўстанцкі камітэт Слонімскага павета вылучыў сваім прадстаўніком Міхала Валовіча і накіраваў яго за дырэктывамі ў Вільню.

У хуткім часе Валовіч удзельнічае ў Грахоўскай бітве, за што атрымлівае сваю першую вайсковую ўзнагароду. Новы Народны ўрад Польшчы вырашае дапамагчы паўстаўшай Беларусі. Валовіч і Пржцлаўскі павінны былі сустрэць груз са зброяй у Паланзе. Пакуль яны дабраліся да Палангі, порт ужо быў захоплены расейцамі. Палангу было вырашана ўзяць штурмам, сумесна з партызанскім атрадам Яцэвіча. Штурм пачаўся 13 траўня 1831 г. Спачатку посьпех быў на баку паўстанцаў, аднак да расейскага гарнізону неўзабаве падышла дапамога. Потым быў штурм Вільні, аднак авалодаць горадам не ўдалося.

Валовіч у гэты час прымаў удзел у баях пад Шаўлямі, Душвентамі, Повендэнямі і Новым Местам. За заслугі ў справе паўстаньня Валовіч і Пржцлаўскі 4 кастрычніка 1831 г. былі ўзнагароджаны Цэнтральным урадам Польшчы залатымі кавалерскімі Крыжамі. А на Бацькаўшчыне, у адпаведнасьці з загадам расейскага цара, іх чакаў растрэл...

Некаторы час Валовіч вымушаны быў знаходзіцца на чужыне. У Парыжы ён з паплечнікамі рыхтаваўся да новага паўстаньня. У пачатку сакавіка 1833 г. група патрыётаў рушыла на Бацькаўшчыну. Дабраліся ня ўсе. Але найбольш здатныя перайшлі мяжу і прыступілі да падрыхтоўкі паўстаньня.

Валовіч хутка сфармаваў партызанскі атрад. З мэтай здабыцьця сродкаў на закупку зброі паўстанцы зьдзейсьнілі няўдалы напад на паштовую карэту з казённымі грашмі. Тым часам у Валовіча зьявілася магчымасьць павялічыць свой атрад, бо 10 траўня ў лес уцяклі 28 палонных паўстанцаў, якія раззброілі свой канвой. Каб не дапусьціць аб'яднаньня паўстанцаў, на іх пошукі было кінута звыш 10 тысяч салдат, паліцыянтаў і прыгонных сялян. Міхал Валовіч быў схоплены. На допытах трымаўся годна, праявіў выключную мужнасьць, нічога не расказаў катам пра паўстанцкую арганізацыю.

21 ліпеня (2 жніўня па н.ст.) Міхал Валовіч быў павешаны ў Гродне. Пазьней каты таемна схавалі цела героя, каб сьцерці яго з народнай памяці. Але памяць пра яго жыве ў народзе, якому ён аддана служыў.

СЛАВА ГЕРОЯМ!

*(З прэс-рэліза № 2 ад 6 лістапада 2000 г. Арганізацыі «Край».*

*Кантактная адрэса: 220037 Менск, а/с 49 «КРАЙ».*

*e-mail: spa_kraj@hotmail.com Пэйджар (017) 249-00-00, аб. 7315).*



Краёўцы падыходзяць да месца ўсталяваньня крыжа



Уніяцкі сьвятар асьвячае крыж у гонар беларускіх паўстанцаў каля Парэцкай царквы

# Свой сярод чужых, чужы сярод сваіх

*Усевалад Родзька... Пра гэтага чалавека і сёньня мы ведаем вельмі мала. Вайсковец, палітык, нацыяналіст. Ён паўтарыў лёс Кастуся Каліноўскага, забіты маскоўскімі акупантамі ў 26 гадоў...*

Актыўная палітычна-вайсковая дзейнасьць Усевалада Родзькі была нядоўгай – толькі 6 гадоў (з 1939-га да 1945 г.). Але за гэты час ён шмат пасьпеў зрабіць. Родзька ачольваў падпольную Беларускую Незалежніцкую Партыю, Беларускую Вайсковую Арганізацыю, дэсантны батальён "Дальвіц". Ягонымі намаганьнямі падчас нямецкай акупацыі на Беларусі разбудоўваліся нелегальныя структуры Беларускага нацыянальнага Рэзыстансу. Пасьля гібелі ад рук фашыстаў а. Вінцэнта Гадлеўскага, менавіта Ус. Родзька імкнуўся згуртаваць усе беларускія нацыяналістычныя сілы. Мэта была адна – адваяваць незалежнасьць Беларусі. А ворагаў было шмат і былі яны значна мацнейшыя за беларусаў.

Але Ўсевалад не губляе аптымізму. Ён разумее, які шанец атрымала ў час ваеннай завірухі беларуская нацыя. Яго трэба было паспрабаваць скарыстаць. Таму ўсе сілы былі кінуты на стварэньне беларускіх вайсковых і партызанскіх фармацый. Старэйшае пакаленьне дзеячоў памятала, як у часы стварэньня БНР, калі на Беларусі адзін за адным мяняліся акупанты, якраз не хапала Беларускага Войска. Існавалі толькі разцярушаныя асобныя групы, атрады, якія ня мелі агульнага кіраўніцтва. Тое, што не атрымалася ў стваральнікаў Беларускай Народнай Рэспублікі, здолеў зрабіць Родзька й ягоныя паплечнікі. У 1944 годзе, калі нямецкую акупацыю зьмяняла акупацыя савецкая, існавала Беларуская Краёвая Абарона, якая налічвала дзесяткі тысяч жаўнераў і афіцэраў. БКА знаходзілася пад тайным кантролем старшыні ЦК БНП "Воўка" (Родзькі). Усевалад Родзька кантраляваў і створаныя БНП у розных раёнах Беларусі нацыянальныя партызанскія аддзелы. Рыхтавалася паўстаньне, якое не адбылося...

Замест паўстаньня супраць немцаў, было вырашана рыхтавацца да змаганьня супраць бальшавікоў. Родзька пакінуў частку людзей на Беларусі, іншыя адышлі разам зь ім у Нямеччыну. У гэты час многія беларускія нацыяналісты спадзяваліся, што пасьля капітуляцыі Нямеччыны заходнія саюзьнікі пачнуць вайну супраць Савецкага Саюза. Зноў новая гульня, новыя спадзяваньні, новыя праекты. Але падзеі разьвіваліся інакш, новай вайны не было, савецкая дзяржбясьпека палявала за ўдзельнікамі Беларускага Рэзыстансу. Восеньню 1945-га ў Беластоку быў арыштаваны і Ўсевалад Родзька. У бальшавіцкай турме ён напісаў (або напісалі з ягоных слоў, не выключана, што і падправілі) падрабязныя ўспаміны пра сваю дзейнасьць. Назваў удзельнікаў БНП...

Пра гэта расказваюць некаторыя сябры БНП, якім у турме паказвалі паказаньні Родзькі. Вось, кіраўнік ваш прызнаўся, і вы прызнавайцеся... Як было на самай справе мы калісьці даведаемся. Даведаемся, якія мэтады скарыстоўвалі чэкісты ў "працы" з Родзькам і што яны зь ім зрабілі.

Аднак у любым выпадку цяжка называць гэтага чалавека здраднікам, як робяць некаторыя. Ён хутчэй ахвяра савецкай карнай сыстэмы, якой ён быў патрэбны. ЛЮБЫМ КОШТАМ. Ім трэба было скампраметаваць Беларускі нацыянальны Рэзыстанс і ягонага кіраўніка. А Родзьку было толькі 26 гадоў! Які цяжар узваліў ён на свае плечы і ішоў, ішоў на сваю галгофу!..

Свой сярод чужых, чужы сярод сваіх. Гэта таксама й пра Родзьку. У чэрвені 1999-га беластоцкая "Ніва" "адгукнулася" на ўспаміны былога паплечніка Родзькі ў газэце "Беларус" і надрукавала ганебны пашквіль. Спачатку нейкая пачвара, схаваўшыся пад псеўдай "Сідар Макацёр", зьмясьціла адвольны пераказ успамінаў ветэрана пад загалоўкам... "Кароткі курс параноі". Бачыце, яна мяркуе, што Родзька прабіраўся да Лупашкі і "Бурага", польскіх акоўцаў, якія пасьля палілі беларускія вёскі на Беласточчыне й забівалі беларусаў. А побач газэціна зьмясьціла зьдзеклівы вершык пра Родзьку пад назовам "Герой". Вось так "ушаноўвае" памяць беларускага патрыёта беларуская газэта з Беластоку.


Кароткі курс параноі

Факс сябравіцкага паэта Гапавасцюка

Герой

Здаецца, некаторыя беластоцкія беларусы пакутуюць ад сваёй непаўнавартасьці. Яны ўсё ствараюць імідж мясцовых беларусаў, як ахвяраў. Яны пішуць, што беларусы пайшлі ў першыя пасьляваенныя гады на службу да "польскай народнай улады", але ні словам не згадваюць пра ўдзел мясцовых беларусаў у антыбальшавіцкай барацьбе. Беларусы, бачыце, толькі ахвяры. Яны не партызанілі, а пайшлі ў польскую міліцыю. Яны не супраціўляліся, але сядзелі на печы. А тут нейкі Родзька перашкаджае існаваньню гэтага міта, бо ў 1945 годзе стварыў беларускае падпольле на Беласточчыне. І выкрасьліць яго цяжка, але можна зганьбіць. Хай пасьмяюцца палякі з дурных беларусаў, якія абліваюць брудам сваіх герояў ды ставяць іх у адзін шэраг з польскімі карнікамі...

Да гэтай тэмы мы яшчэ вернемся. А пакуль зьмяшчаем успаміны былога дэсантніка "Дальвіца". Таго самага, з якога кпіла "Ніва". Можа яны і нязграбна напісаныя, але ўтрымліваюць вельмі каштоўныя зьвесткі, што да лёсу правадыра беларускіх нацыяналістаў Усевалада Родзькі.

# ПРА ЎСЕВАЛАДА РОДЗЬКУ

Прачытаўшы ў "Беларускім Дайджэсьце" артыкул Сяргея Ерша пра Ўсевалада Родзьку, пачуў душою, што я павінен напісаць аб ім больш падрабязна. Я быў разам зь ім пачынаючы з "Дальвіца" (Усходняя Прусія) да астатніх дзён. Зімою 1945-га я прылучыўся да дэсантнай часьці, дзе бліжэй пазнаёміўся з У. Родзькам. У гэты час савецкія танкі гналі немцаў на Захад, пачыналася адступленьне фронту.

Каля Шчэціна нашая часьць была адрэзаная савецкімі войскамі. Мы павінны былі прабрацца празь Сьвінэміндэ на пантонных лодках на нямецкі бок. Там па дарозе нашая дэсантная група сустракала многа беларусаў, якія былі вывезеныя ў Нямеччыну на працу. Яны з ахвотай далучаліся да нас. Мы стараліся сабраць чым больш беларусаў, каб пасьля разам перайсьці мяжу альбо спусьціцца на самалётах на Беларусь і працягваць барацьбу на сваёй роднай зямлі.

Усевалад Родзька быў галоўным камандзірам нашай дэсантнай групы. Ён быў таленавітым і адукаваным чалавекам, добрым афіцэрам-жаўнерам і добрым дыпляматам. Ён меў сваю палітыку й меў мэту: весьці барацьбу, пры ўсякіх умовах, - за незалежную, дэмакратычную Беларусь. Ён таксама не прызнаваў ніякай дыктатарскай улады. Усевалад не хацеў падпарадкавацца немцам, нават не хацеў насіць нямецкіх адзнакаў. Зразумела, немцам гэта вельмі не падабалася й яны ўжо мелі яго "на лісьце" /у чорным сьпісе/. Калі-б вайна прадоўжылася, Родзька быў-бы расстраляны немцамі. (Такія, як ён загінулі ў канцлягеры Дахаў, як, напрыклад, маёр Мікула).

У той час аслабленая нямецкая армія патрабавала дапамогі. Наш батальён немцы хацелі паслаць на перадавую лінію, але Ў. Родзька, якімсьці спосабам выйшаў з гэтага становішча. Гэтым самым ён выратаваў жыцьцё многіх беларусаў, таму што перад канцом вайны фронт зьяўляўся сьмерцю.

У канцы сакавіка 1945 году наш парашутны батальён злучыўся з украінскім парашутным батальёнам. Украінцы прынялі нас як братоў. (Яны былі лепш арганізаваныя й баёва падрыхтаваныя, чым мы). У. Родзька навёў добрую сувязь зь імі й заплянаваў разам перайсьці фронт і ісьці разам зь імі на Украіну, а там - на Беларусь.

У гэты час да нас дайшла вестка, што вайна збліжаецца да канца. Мы апынуліся ў цяжкім становішчы. У траўні 1945 году наш батальён папаў зноў у акружэньне разам з украінцамі, літоўцамі й латышамі. Нямецкія танкі прарвалі кальцо, і мы былі вызваленыя. Тыя, што змаглі перайсьці ў той час на Захад, засталіся шчасьлівейшымі, чым тыя, што засталіся пад савецкай акупацыяй.

У час капітуляцыі мы з Родзькам знаходзіліся ў Чэхіі, у горадзе Габланс. З усіх бакоў была паніка, немцы ішлі ў палон (але гэта было ўсё арганізавана з нямецкай стараны). Мы ня кінулі зброю. Наш батальён разам з украінцамі пайшоў у лес, дзе савецкія самалёты заўважылі нас і пачалі кідаць бомбы, але, на шчасьце, ніхто ня быў забіты. Пасьля гэтай бамбёжкі мы рашылі разьбіцца на малыя групы (па 30-35 чалавек) і перабірацца далей на Захад. Мы пераадзеліся ў цывільную вопратку й разышліся. Родзька забраў мяне й абодвых маіх сяброў-землякоў у сваю групу.

Нашая група мела невялікі запас амуніцыі й ежы. На некаторы час мы засталіся ў чэскім лесе як "лясныя партызаны". Стараліся прабірацца на Захад, але дазналіся, што ўся чэская мяжа застаўлена саветчыкамі й пераход зрабіць ніяк немагчыма. Скончылася ежа. Да таго яшчэ, празь дзён пяць, чэская камуністычная партызанка "зацікавілася" намі й зрабіла адлаву, але яны нас не змаглі знайсьці.

Пасьля гэтага мы зноў прадаўжалі паход і так дайшлі да вялікага маёнтка. У той час чэхі патрабавалі работнікаў і мы мелі шчасьце спыніцца там на некалькі дзён. Чэхі далі нам працу й месца выспацца.

З Чэхіі мы паехалі ў Польшчу, каб перабрацца ў Белавежскую пушчу. У той час цягнікі былі перапоўненыя людзьмі. Нам заставалася толькі адна магчымасьць - ехаць на даху. Наша група апынулася ў цяжкім становішчы: бяз грошай, бязь ежы, бязь месца для адпачынку, але мы даехалі да польскай мяжы (бо цягнік далей ня ішоў), перайшлі яе й накіраваліся ўжо на польскім цягніку ў Кракаў. Там мы затрымаліся на некалькі дзён. Родзька й я пайшлі ў Ягелонскі Ўнівэрсытэт, дзе ён меў знаёмага прафэсара. Усевалад хацеў спаткацца зь ім (нам трэба было навесьці сувязь з амэрыканцамі й ангельцамі), але абдумаўся.

Уночы нашая група падалася з Кракава на Варшаву. Польская сталіца была ў страшным становішчы: усё было разбуранае й спаленае. Мы перайшлі Віслу й выйшлі на Віленскую станцыю. Там нас захапіла ноч і мы засталіся начаваць пад пэронам. Раніцай я прачнуўся й убачыў вельмі худога хлопца ў кароткіх нагавіцах. Прыгледзеўся больш і пазнаў - Юрка Сянькоўскі (у той час яму было толькі 19 гадоў). Убачыўшы нас ён вельмі ўзрадаваўся й далучыўся да нашай групы.

Зь Віленскай станцыі мы паехалі ў Беласток. Браты Луцкевічы мелі ад Родзькі заданьне: па-першае, застацца ў Варшаве й навязаць сувязь з амэрыканцамі праз польскую партызанку (якая ў тым часе была вельмі актыўнай); па-другое, здабыць зброю. Па дарозе з Варшавы ў Беласток Усевалад пазнаёміўся з маладой жанчынай, якая, па яе словах, прыехала з Латвіі, але жыла ў Беластоку.

У Беластоку мы затрымаліся ў пункце, дзе было многа людзей, якія ехалі зь Нямеччыны. Мы падаваліся, што мы з-за Буга й як "палякі" хочам застацца ў Польшчы. Нам далі працу па розных вёсках, блізка Беластоку. Я застаўся разам з Родзькам. Ва Ўсходняй Польшчы дзейнічала моцнае партызанскае падпольле. Зразумела, мы мелі магчымасьць перайсьці да партызанаў, але наш плян быў перайсьці на Беларусь і змагацца разам зь Вітушкам на сваёй зямлі. У той час Родзька падтрымліваў сувязь з братамі Луцкевічамі й чакаў падтрымкі.

Вайна зь Японіяй яшчэ ня скончылася. Пачалася барацьба савецкай арміі з польскімі партызанамі ў Белавескай пушчы. Памятаю, як я й Ўсевалад пайшлі на верхавіну гары й бачылі, як савецкія самалёты бамбілі партызанаў у лесе.

працяг на бал. 6

Алесь ЗМАГАР

# МОЙ ЖЫЦЬЦЯПІС

Заканчэньне, пачатак у № 3, 4, 2000 г.

*Сёньня ўвазе нашых чытачоў прапануецца заканчэньне аўтабіяграфіі вядомага беларускага эміграцыйнага дзеяча Алеся Змагара (Яцэвіча, палкоўніка Баравога). Напомнім, што Змагар у юнацтве ўдзельнічаў у Слуцкім антыбальшавіцкім Збройным Чыне, у антысавецкай партызанцы. На эміграцыі ў пасьляваенны час ён узначальваў беларускія ветэранскія антыбальшавіцкія арганізацыі. Акрамя таго, Алесь Змагар - вядомы беларускі пісьменьнік, паэт, выдавец. Большасьць ягоных твораў яшчэ малавядомыя на Бацькаўшчыне.*



Рыхтуюся да эміграцыі ў Злучаныя Штаты Амэрыкі, працую мэтрдатэлем, у вольны час пішу раман "Случчына ў вагні". Увесь час майго перабываньня ў Францыі супрацоўнічаю з часапісам "Моладзь". Быў неафіцыйным рэдактарам газэты "За Волю", але, пасьля таго, як абрамчыкавая цэнзура не прапусьціла маіх артыкулаў "Лістапад" і "За незалежнасьць Беларусі", я ад удзелу адмовіўся. Напісаны ў 1952 г. верш "Да згоды", паслаў у бэнээраўскую й бэцээраўскую прэсу, але ні адна зь іх майго верша не надрукавала, тагды паслаў Хмары, і той надрукаваў. Прапанову Абрамчыку і Астроўскаму прыйсьці да паразуменьня ды спачатку чаргавацца прэзыдэнцтвам і віцэ-прэзыдэнцтвам, а свае Рады злучыць у адну Раду, якая з часам і абярэ сабе прэзыдэнта Рады, Абрамчык катэгарычна адкінуў. Перад ад'ездам у ЗША мяне наведаў сьвятар Фінкоўскі, ведамы мне яшчэ зь Беларусі, калі пад Менскам ірваліся бомбы, а ён адважна адкрываў цэрквы, правіў Богаслужбы ды масава хрысьціў дзяцей і дарослых. 1 сакавіка 1956 г. у Нью-Ёрку (ЗША). Ад беларусаў прыгожа сустрэла мяне юначка Галіна Ганчарэнка. 2-га сакавіка я ў Клевеландзе, дзе на мяне чакаў сябра Аўген Каханоўскі. Ён вельмі дакладна азнаёміў з жыцьцём у Амэрыцы.

Уключаюся ў нацыянальную працу, выступаю на сходцы Аб'яднаньня Беларускіх Нацыянал-Дэмакратаў (АБНД), затым на сходцы аддзелу БАЗА. Еду ў Саўт Рывэр. У Нью-Ёрку сустракаюся з М. Паньковым, І. Плашчынскім, Н, Мядзейкай і Паплаўскай. Запрошаны старшынёй Нацыянальнай Беларускай Рады Мікалаем Дзямідавым, еду ў Чыкага, знаёмлюся з жонкай былога сакратара беларускага ўраду Варонкавай, са Змагаром-Чарапуком, зь якім моцна падружыўся, ды з другімі актывістамі старой эміграцыі. Выступаю па радыё. Лена Кузьміцкая й Валя Ламакава зачытваюць "Шляхі Беларускага Вызвольнага Змаганьня", на сцэне Лена з Валяй танцуюць "Лявоніху". Запрошаны Хмараю ў Таронта на ўшанаваньне ўгодкаў Слуцкага паўстаньня, выступаю з успамінамі. У Клевеландзе падтрымліваю сьвятара Крыта ў ягонай абароне праваслаўя ад вуніяцтва. У 1962 г. выдаю зборнік вершаў "Да згоды". Выступаю з рэфэратамі на сходах. Працую ў БВР. У 1963 г. працую настаўнікам у беларускай суботняй школе. Пішу драматычныя п'ескі "25 Сакавік", "Купала", "Коляды" для арганізаванага знанаю беларускаю сьпявачкаю Ірай Калядою драматычнага гуртка, а для школкі - "Калядныя сьняжынкі", "Школьныя хібы" й шэраг вершаў. У 1965 г. выдаю кнігу "Вызвольныя Шляхі" й газэту "Незалежная Беларусь". У 1967 г. выдаю кніжку "Лесавікі". У 1973 г. працягваю выдаваць газэту "Незалежная Беларусь" і выдаю кніжку "Пражэктар". Падрыхтаваны да друку: "Па крывых каляінах" - апавяданьні, "Кветка шчасьця" - драматычныя творы, "Жыве Беларусь" - вершы, "Пад чаромхай" - вершы, "Край дзіваў, песьні й красы" - 1-ая квадра рамана "Случчына ў вагні". У 1978 г. пераяжджаю ў Флёрыду, купляю хату, канчаю пісаць раман "Случчына ў вагні" ды працягваю нацыянальную працу, выступаю ў школах для іншанацыянальных студэнтаў з рэфэратамі пра Беларусь, выступаю ў Дзень Паняволеных Народаў, а таксама выкарыстаў радыё "Вольны Кабул" для прызыву беларускіх жаўнераў не зьнішчаць адважных афганскіх патрыётаў у іхнай барацьбе за вызваленьне Афганістану. Пішу ў беларускія газэты "Беларускі Голас" і "Беларускі Час", а таксама ў казацкія часапісы "Казачье Слово" й "Казачья Жизнь". Што да майго сямейнага жыцьця, то на Бацькаўшчыне я меў блізкіх прыяцелек, але афіцыйна жаніцца ня мог, каб не нараджаць іх на небясьпечныя спатканьні з НКВД. Жаніўся я падчас нямецкай акупацыі. Быў шчасьлівы. Жонка Валя дапамагала мне ў нацыянальнай працы як на бацькаўшчыне, так і ў Аўстрыі, Францыі і ў ЗША, аж пакуль у 1957 г. не адышла ад мяне.

Празь які час я зноў пачаў выступаць з рэфэратамі, а для дапамогі, асабліва ў сьпевах па-беларуску, пачаў запрашаць студэнтак - японак, кітаянак, в'етнамак, мэксіканак, пэруанак, калумбіек, гватэмалак ды іншых з Паўдзённай Амэрыкі, якіх я навучаў пець па-беларуску за два тыдні. Выступы нашы карысталіся надзвычайным посьпехам. Асаблівым посьпехам адзначыўся выступ прыгожае маладое японкі, апранутай у народнае беларускае адзеньне, у ролі багіні Шчодры. Цяпер маю клопат, каб выдаць мае падрыхтаваныя да друку творы

26 красавіка 1984 году

## Сябрам няволі

(да сустрэчы 7. X. 2000 г. у гор. Пінску)

Сабраліся мы на вялікае сьвята,
У дзень сонечнай восені ў Пінск прыбылі,
Шаноўныя хлопцы і нашы дзяўчаты,
Што лепшыя годы ў астрогах былі.
Што вырваць хацелі свой Край із няволі
Ад лютых чужынцаў-усходніх братоў,
Ад злыдняў-фашыстаў, што сеялі ў полі
Не жыта, ячмень, а асот і куколь.
Што праглі нас зьнішчыць, і мову, і род
І вытаўчы душы з палонных грудзей,
Заняць нашы хаты, палі, агароды
Бандытаў тварыць з падняволь-ных дзяцей.
Мы гора і зьдзекі ад сьвету хавалі
Трывалі, хоць гінулі тысячы нас.
Нэрвы, як струны ў грудзях не маўчалі
Сталёвыя путы мы сталі ламаць.
Асілкі былі, што нам сіл дадавалі,
Гонар у астрогах не страцілі мы.
Дарма, што галодныя волю кавалі
І бачыце, путы няволі з сябе мы зьнялі.
Мы сёньня выходзім на плошчы, як людзі.
Пад пошумам бел-чырвона-белых сьцягоў.
Мы дойдзем да волі і гора забудзем
Прагонім чужынцаў - адновім свой дом.
З роднаю мовай пойдуць дзеці ў школы,
Яе мы ў няволі не ўсе зьберагглі.
А нашай Крывіцкай роднай Пагоні,
Адняць у народа ніяк не змаглі.

Надзея Дземідовіч
7 кастрычніка 2000 г., г. Пінск

# ПРА ЎСЕВАЛАДА РОДЗЬКУ

заканчэньне, пачатак на бал 4.

Родзька часта хадзіў да той маладой жанчыны, зь якой пазнаёміўся па дарозе ў Беласток. Па яго словах, ён хацеў празь яе навесьці сувязь з польскай партызанкай.

У гэтым часе закончылася вайна зь Японіяй. Усевалад стаў больш задуманым. Аднаго вечара ён кажа нам: "Пайду зноў да гэтай жанчыны, можа яна нешта дапаможа нам". Гэта быў астатні вечар, калі я яго бачыў. Ён не вярнуўся.

Раніцай другога дня я пабег да тае жанчыны. Яна сказала мне, што Ўсевалада ў яе ня было. Паміж намі пачалася паніка. Кожны думаў па-рознаму: ці Родзьку арыштавалі, ці ён пакінуў нас... Але нешта цёмнае адбылося зь ім. Мы ўсёж-такі не пакідалі надзеі, што ён вернецца.

Праз тры дні прыехаў да нас Красакевіч (ён раней быў у нашай часьці) і сказаў, што спаткаўся ў Варшаве з братамі Луцкевічамі й яны далі яму наш адрас, каб далучаўся да нас.

Чамусьці зь першага погляду ён стаўся мне падазроным. Па-першае, быў добра апрануты, зь ежай (кансэрвамі), калі мы нічога ня мелі; па-другое, ён часьценька выбягаў у горад "па газэтку" (ня ведаючы польскай мовы). Гэтым я быў вельмі зьдзіўлены. Праз тры дні прыехаў да нас Лявон Луцкевіч, забраў рэчы Родзькі й, не сказаў ніводнага слова, паехаў.

Пасьля ўсяго гэтага я зразумеў, што нешта здарылася з Усеваладам і нам небясьпечна заставацца ў гэтым месцы. Я рашыў, што трэба ўцякаць нам адтуль, і сказаў аб гэтым хлопцам. Юрка Сяньkоўскі й яшчэ адзін чалавек са Стоўпцаў - ён дэзэртаваў з савецкай арміі й прылучыўся да нас у Беластоку - згадзіліся ехаць разам. У той-жа вечар мы й паехалі.

Летам 1995 году я сустрэўся са сваім сябрам-земляком з вайны (ён быў разам з намі й з Родзькам у Беластоку). Ён расказаў мне, што ноччу ўсіх нашых хлопцаў арыштавала савецкае НКВД. Пасьля яны дазналіся, што Кракасэвіч (ён быў з-пад Слуцка) здрадзіў іх. У Горадні адбыўся суд, дзе мой сябра з другімі, калі выходзілі з залі суда, бачылі, як туды ўводзілі Родзьку. Яго суд адбываўся асобна ад другіх, ніхто з нашых ня бачыў яго ні ў судзе, ні ў турме.

Усе хлопцы з нашай групы, хто застаўся ў жывых (можа, толькі пяць чалавек), адсядзелі па 11 гадоў у Сібіры. Паводле расказу майго сябра, яны трапілі ў лягер сьмерці, дзе з 3500 чалавек (там былі беларусы, літоўцы, латышы й эстонцы) засталіся ў жывых толькі 350 чалавек! І то толькі таму, што пасьля сьмерці Сталіна іх вывезьлі працаваць у шахты.

На просьбу аўтара ліста, ягонае прозьвішча не падаецца.

*Беларус (Нью-Ёрк), № 458, кастрычнік-лістапад 1998 г.*

## Рыгору Клімовічу
## Вечная Слава!

Па церннях ішоў Ты з чыстай душою,
Каб волю даць народу на зямлі.
Пякучым летам і халодную зімою
Ламаў і рваў Ты іга кайданы.
Не мелі моцы турмы і горлагі
Спыніць Цябе - закрыць да волі шлях.
Мароз сібірскі - катаржны дарогі
Там не змаглі ўтрымаць у ланцугах.
Сваім жыцьцём вы волю дабывалі.
Сталёвы град не мог у дол зваліць,
Як дзікай сьмерці зубы выбівалі
І ўсе гулагі праглі разваліць.
Вяліку ношу ўзяў на свае плечы
І ўсё жыцьцё цярністае пранёс.
І не растрос ды не пусьціў на вецер
Радзіме ў дар Ты сам сябе прынёс.
Йшлі за Табою людзі ў выгнаньні,
Каб прамень сонца хоць каму адчуць.
У час дзікунства сіл не шкадавалі,
Бо хацелі вольна хоць раз уздыхнуць.
Кажуць: памёр, пакінуў нас. Няпраўда!
Ты жыў, жывеш і будзеш вечна жыць.
Бо для асілкаў сьмерць непадуладна
Бо сілу духа нельга пакарыць.
Такія людзі, як Ты, не ўміраюць.
Жывуць, растуць, мацнеюць з кожным днём.
І сьцежкі іх быльлём не зарастаюць
Вечная слава і гонар змагарам!

Надзея Дземідовіч
2. VII. 2000 г.

# Як фашысты з бальшавікамі браталіся

22 верасьня 1939 г. у Берасьці, "з выпадку перадачы гораду пад савецкі кантроль", прайшоў сумесны парад часцей вэрмахта і Чырвонай Арміі, які сімвалізаваў "савецка-нямецкае братэрства па зброі".

Парад прымалі на супольнай трыбуне камандзіры-танкісты: з нямецкага боку - генэрал-лейтэнант Гайнц Гудэрыян, з савецкага боку - камбрыг Сямён Крывашэін. Гудэрыян пазьней напісаў: "Усе пытаньні былі задавальняюча для абоіх бакоў вырашаны... Наша знаходжаньне ў Берасьці закончылася парадам і цэрымоніяй з абменам сьцягамі".

Ня ведалі тады Гудэрыян і Крывашэін, што ўжо ў ліпені 1941-га яны будуць ваяваць адзін супраць другога пад беларускім горадам Прапойскам. Ня ведаў Крывашэін, што зімой 1945-га, калі сьмершаўцы ва Ўсходняй Прусіі захопяць нямецкую кінахроніку, яго будуць цягаць у контрразьведку. Аж пакуль не зьявіцца пацьверджаньне, што той парад праводзіўся па загаду Сталіна...

Берасьцейскі фашысцка-бальшавіцкі парад 1939 году - яскравы прыклад таго, што Другую сусьветную вайну разьвязала ня толькі Нямеччына, але й СССР. Аж да 22 чэрвеня 1941-га яны былі саюзьнікамі. Праўда, Сталін рыхтаваўся ў пачатку ліпеня 1941 г. нанесьці ўдар па Нямеччыне, але не пасьпеў. А каб у яго атрымаўся "бліцкрыг", то ўся Эўропа апынулася б пад няменш страшнай за фашыстоўскую акупацыяй савецкай. А так і Нямеччына прайграла вайну, і Савецкі Саюз зьнясілеў ды ўжо ня мог узяць усю Эўропу, адхапіў толькі яе ўсходнюю частку...

Сёлета ў Беларусі ўладамі шырака адзначалася сьвята 17 верасьня. Прайшлі афіцыйныя сходы з канцэртамі, вывешваліся лёзунгі. Толькі сьвята не адчувалася. Вельмі ж шмат яшчэ жыве людзей, якія памятаюць, што пасьля верасьня 1939-га на ўсход пайшлі цягнікі з нявіннымі людзьмі, іншых стралялі на месцы, далёка не вывозячы... Таму для беларусаў гэтая дата супярэчлівая. З аднаго боку Беларусь аб'ядналася, але ўжо праз месяц Сталін аддаў Віленшчыну жмудзінам. Адзін толькі гэты факт робіць для нас гэтае "сьвята" трагедыяй.

Іван Радзевіч

# Забыты беларускі вайсковы дзеяч

Сярод беларускіх вайсковых дзеячоў часоў Другой сусьветнай вайны быў падпалкоўнік Язэп Гуцька. Пра гэтага чалавека беларускія гісторыкі чамусьці забыліся...

У фондах Расейскага дзяржаўнага ваенна-гістарычнага архіва ў Маскве захоўваецца паслужны спіс Язэпа Навумавіча Гуцькі, складзены ў 1912 годзе (ф. 409, п/с 1703, 1912 г.). З яго вынікае, што Язэп Гуцька нарадзіўся 24 сьнежня 1883 г. і паходзіў з сялян Менскай губэрні, праваслаўнага веравызнаньня. Закончыў Навагрудзкае (у дакумэнце памылкова - Наўгародзкае) павятовае вучылішча і Віленскае пяхотнае юнкерскае вучылішча па 1 разраду. У жніўні 1904 г., *"пасля заканчэньня поўнага курса навук"*, Гуцька атрымаў рангу падпаручыка і служыў у 22-ім Усходне-Сібірскім стралковым палку. У гэтым жа годзе ён у складзе войск 1-й Манчжурскай арміі, 3-га Сібірскага армейскага корпуса ўдзельнічаў у вайне з Японіяй. У баях пад вёскай Бенсіху 26-28 верасьня 1904 года Язэп Гуцька быў паранены. За баявыя заслугі яго ўзнагародзілі ордэнамі сьв. Ганны 4-й ступені з надпісам "за храбрасьць" і сьв. Станіслава 3-й ступені з мечамі і бантам. У 1907 годзе ён стаў паручыкам, а ў 1909 г. быў камандзіраваны для паступленьня ў Імператарскую Мікалаеўскую ваенную акадэмію.

У *"Сьпісе Генэральнага штабу"* за 1917 год таксама ёсьць згадка пра Язэпа Гуцьку, які з 6 сьнежня 1915 г. быў падпалкоўнікам. З 23 жніўня 1916 г. ён займаў пасаду памочніка старшага ад'ютанта аддзела генэрал-кватэрмейстэра штабу 9-й арміі. А далей была рэвалюцыя і анархія, таму больш ніякіх зьвестак пра Гуцьку ў РДВГА няма. Адсутнічае там і здымак нашага земляка. Пра далейшы ягоны лёс мы даведваемся з іншых крыніц.

Ці не галоўная крыніца інфармацыі пра Язэпа Гуцьку - гэта ягоны некралёг "Памяці генэральнага штабу палкоўніка Язэпа Гуцькі", зьмешчаны ў газэце "Бацькаўшчына" (Мюнхэн) у № 31 ад 29 ліпеня 1956 г. за подпісам нейкага "А. О.". З некралёгу вынікае, што Язэп Гуцька нарадзіўся ў вёсцы Брацянка Гарадзішчынскае воласьці Навагрудзкага павету (нельга не згадаць, што з гэтай жа вёскі паходзіць Генадзь Казак, кіраўнік падпольнага Саюза Вызваленьня Беларусі ў Навагрудку ў 1946-47 гг.). Гуцька закончыў народную школу і 4-хкляснае Навагрудзкае гарадзкое вучылішча.

Сялянскага сына Язэпа Гуцьку вабіла вайсковая служба. Перад юнкерскім вучылішчам ён служыў у расейскім войску "вольноопределяющимся"...

Пасьля расейскіх рэвалюцый Гуцька вяртаецца на Наваградчыну, увесь міжваенны час працуе адвакатам (пад началам вядомага беларускага дзеяча Паула Сьвірыда), падтрымлівае сувязь з беларускім нацыянальна-вызвольным рухам, але сам актыўнага ўдзелу ў палітыцы не прымае. У 1939 годзе яго арыштоўвае НКВД. Вызваліўся на пачатку нямецка-савецкай вайны і вярнуўся ў Наваградак. Падчас нямецкай акупацыі, калі паўстала неабходнасьць стварэньня беларускага войска, выявілася, што Язэп Гуцька - лепшая кандыдатура на пасаду начальніка ягонага Галоўнага Штабу. Успамінае Францішак Кушаль: "Зараз пасьля выхаду загаду аб арганізацыі БСА (Беларускай Самаахові - С. Ё.) Ермачэнка пачаў арганізоўваць Штаб. На шэфа Штабу быў пакліканы падпалкоўнік *генэральнага штабу* царскае арміі Язэп Гуцько. Падпалкоўнік Гуцько прыбыў у Менск і ўступіў у выкананьне абавязкаў шэфа Штабу...

/Пазьней немцамі/ назоў Галоўнага Каманданта БСА ў д-ра Ермачэнкі быў адабраны, гэтак сама забаронена яму было мець Штаб БСА. Даведаўшыся аб гэтым, падпалкоўнік Ген. Штабу Гуцько, як толькі вярнуўся з водпуску Ермачэнка, падзякаваў яму за гонар і паехаў дахаты ў Наваградак".

Пасьля няўдачы са стварэньнем беларускага войска, з-за нямецкіх перашкод, у 1942 годзе, Язэп Гуцька зноў спатрэбіўся вясной 1944-га, калі паўставала Беларуская Краёвая Абарона. Кушаль так апісвае гэтую другую спробу: "Кад-

*Працяг на бал. 8*

# Забыты беларускі вайсковы дзеяч

працяг, пачатак на бал. 7

равых афіцэраў у нас ня было амаль зусім. Адзіны афіцэр штабовы з вышэйшай вайсковай асьветай, гэта быў падпалкоўнік генэральнага штабу царскай арміі Гуцько Язэп, але той, спасылаючыся на слабасьць свайго здароўя, адмаўляўся прыняць на сябе якую-колечы працу ў БКА.

...Родзька Ўсевалод закідаў штабу /БКА - С. Ё./, што штаб складаецца зь вельмі маладых афіцэраў і выглядае непаважна. Я асабіста цалкам зь ім згаджаўся... Увага затрымоўвалася на адзіным кандыдаце на штабную працу - гэта на падпалкоўніку царскай арміі Гуцько Язэпу. Прэзыдэнт /Беларускай Цэнтральнай Рады, Радаслаў Астроўскі - С. Ё./ напісаў пісьмо да Гуцько, запрашаючы яго на начальніка штабу БКА. Гуцько свой прыезд у Менск адцягваў і прыбыў толькі ў пачатку траўня 1944 году разам зь Якуцэвічам Паўлам. Пры першай гутарцы з Прэзыдэнтам падпалкоўнік Гуцько згадзіўся прыняць становішча начальніка штабу і на другі дзень зьявіўся да мяне, просячы, каб я даў яму акты для азнаямленьня. Прагледзеўшы акты, Гуцько пайшоў да Прэзыдэнта і катэгарычна адмовіўся ад працы ў БКА. У гутарцы са мною ён сказаў, што калі апэрацыйная частка штабу належыць не да штабу БКА, а да нямецкага штабу, то ён уважае, што гэты штаб ня ёсьць штабам у поўным значэньні і дзеля гэтага ён працаваць у такім штабе ня хоча. Гэткім чынам, адзіная надзея на наданьне штабу "паважнага выгляду" скончылася няўдачай".



*Жаўнеры БКА на занятках па стральбе, 1944 г.*

Такім чынам, дасьведчаны вайсковец адразу зразумеў, што ён ня зможа цалкам кантраляваць беларускае войска, бо гэтага не дазволяць немцы. А станавіцца закладнікам нямецкай палітыкі ён не хацеў. Тым больш, што з усходу ўжо набліжалася Чырвоная Армія...

Летам 1944-га Язэп Гуцька выехаў на Захад, спачатку ў Нямеччыну, а пасьля ў ЗША. Хвароба на доўгі час прыкавала яго да ложку. 8 ліпеня 1956 году беларускі вайсковы дзеяч памёр у горадзе Спрынгфілдзе.

Гэтым можна было б скончыць нарыс пра падпалкоўніка Язэпа Гуцьку, але... У "Бюлетэні Беларускай Незалежніцкай Партыі" (№ 6, 1946 г.) быў зьмешчаны артыкул пра антыбальшавіцкі партызанскі рух на Беларусі ў 1945 годзе. Сярод іншых атрадаў, успамінаўся і "партызанскі Аддзел палк/оўніка/ Г.", які "ня спыняе дзейнасьць... на абшары Меншчыны і Случчыны". Здаецца, акрамя Гуцькі, прынамсі, у час нямецкай акупацыі, іншага афіцэра такой рангі не было. Ці пасьпеў ён адступіць летам 1944-га? Ці не затрымаўся ён на Беларусі на некалькі гадоў? Гэта толькі вэрсія. Цяжкавата было б 60-гадоваму Язэпу Гуцьку пераносіць партызанскае жыцьцё. Таму зусім магчыма, што тым партызанскім аддзелам камандаваў іншы афіцэр.

Сяргей Ёрш

Сьв. Пам.

## Пётр Пархута

(1922 - 2000)

удзельнік Беларускага вызвольнага руху падчас Другой сусьветнай вайны, вязень бальшавіцкіх канцлягераў.

Паходзіў з вёскі Малданічы, што на Дзятлаўшчыне. Перад вайной жыў у Слоніме, вучыўся ў гімназіі імя Т. Касьцюшкі. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у слонімскім камітэце Беларускай Народнай Самапомачы, служыў у мясцовым батальёне Беларускай Самаахоўы. У 1944 г. быў арыштаваны НКВД, атрымаў 20 гадоў канцлягераў. На Беларусь вярнуўся ў 1955 годзе.

Некалькі месяцаў назад цяжка хворым вярнуўся з Расеі ў Беларусь. Памёр у Слоніме 11 лістапада і пахаваны на мясцовых могілках каля магілы сваёй жонкі.

Ён любіў Беларусь і хацеў, каб яна была сапраўды вольнай і незалежнай. Сьпі спакойна, дарагі Сябра!

**«Голас Камбатанта»**

**газэта ветэранаў БВР**

*Надрукавана на абсталяваньні грамадзкага аб"яднаньня АРР «Варута» (Баранавічы). Наклад 299 паасобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.*